У НУМАРЫ



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (742) ГОД XV БЕЛАСТОК 17 МАЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

## ДУБРОВА

*Не так даўно была гэта малая, амаль уся драўляная асада — сядзіба гміны. Зараз Дуброва — павятовае мястэчка з жылымі дамамі, сучаснымі прыгожымі будынкамі, у якіх знаходзяцца ўстановы і прадпрыемствы, а ў цэнтры прыемны скверык, дзе можна пасядзець на лавачцы і паглядзець на новыя будоўлі. Нядаўна была аддана ў карыстанне малачарня, разбудоўваецца ПОМ, заканчваецца будова сярэдняй школы. Да Дубровы Беластоцкай даходзіць зараз чыгунка, якая звязвае павет з шырокім светам. Хто не быў тут некалькі гадоў, той па-сапраўднаму ацэніць хуткі рост мястэчка.* (мх)



*Фота Цаф — Сянько*

## У чым бяда?

У чым бяда? Чаму культурная дзейнасць у грамадах і вёсках усё яшчэ не дасягае таго ўзроўню, які нам хацелася б бачыць? Заглянем у аддзел асветы і культуры ў Бельску Падляшскім, каб пагаварыць аб гэтых справах. У аддзеле сустракае нас сімпатычная Антаніна Куна — намеснік інспектара па справах культуры ды запрашае да гутаркі.

*— У чым вы бачыце, — пытаю, — асноўную цяжкасць культурна-асветнай працы ў павеце?*

— Асноўнай праблемай, — адказвае субяседніца, — з якою маем цяжкасці, з'яўляецца якасць нашых кадраў. Коратка кажучы, галоўнае, каб у святліцах, бібліятэках і клубах працавалі адпаведныя людзі на адпаведным інтэлектуальным і культурным узроўні. Як дагэтуль, людзей такіх не заўсёды ўдавалася нам знайсці. У грамадстве закаранілася перакананне, што культурна-асветная праца не патрабуе ні кваліфікацый, ні асаблівых здольнасцей. Таму на працу ў культуры часта прыходзяць людзі, якія не толькі не маюць аніякіх да гэтага кваліфікацый, але лічаць сваю працу «пераходным этапам». Гэта проста так: калі нехта не можа знайсці аніякай працы, робіцца светліцовым або бібліятэкарам. Рабіцца толькі па тое, каб разглядзецца за іншай працай, якая лепш яму адпавядае. Самі разумееце, што ад такіх «энтузіястаў» культурнай працы няма што чакаць геройства ці ахвярнасці. Таму ўсё яшчэ няма ў нас стабілізацыі кадраў. Людзі прыходзяць і адыходзяць. Адыходзяць часта з нейкім вопытам, прыходзяць без ніякага вопыту і ведаў аб сваёй працы.

*— Вы працуеце ў галіне культуры шэраг гадоў. Ці на працягу гэтага часу якасць культурна-асветных кадраў Бельскага павета палепшылася ці пагоршылася?*

— Палепшылася. Падам вам прыклады з апошніх гадоў. У 1966—1968 гадах на 29 грамадскіх бібліятэк было аж 17 змен бібліятэкараў, у 29 клубах было аж 45 змен (гэта значыць, у многіх клубах іх кіраўнікі змяняліся па некалькі разоў). У 5 святліцах павета змянілася за гэты

Працяг на стар. 4

## ДАРОЖКАЎСКІЯ СПУЛДЗЕЛЬЦЫ

Прадукцыйная спулдзельня ў Дарожках (Беластоцкі павет) заснавалася ў 1952 годзе. На працягу 18-ці гадоў сваёй дзейнасці члены спулдзельні дабіліся значных поспехаў. У руках іх была ўжо вялікая і разнародная гаспадарка, мэтай якой была перш за ўсё таварова прадукцыя.

Ужо ў 1964 годзе спулдзельцы атрымалі па 283 цэнтнеры бульбы з 1 гектара, па 320 цэнтнераў буракоў з 1 гектара, па 21 цэнтнер збожжавых культур. Такога ўраджаю не меў тут ніводзін паасобны гаспадар. Спулдзельня мела тады 2 трактары, 2 абмалотачныя агрэгаты, камбайн, снапавязалкі, электрарухавік, бульбакапалку, электрадаілку, якая за раз даіла 9 штук кароў, а таксама грузавік «Люблін». Спулдзельцы завялі тады жывёлагадоўлю — мелі 100 кароў.

Машыны значна аблягчалі працу не толькі спулдзельцам, але і паасобным сялянам, якім спулдзельня пазычала свае машыны ў час вясенняй і асенняй воркі, у час пасеваў ці абмалотаў.

У спулдзельцаў, як убачылі аднавяскоўцы, было чаму павучыцца.

Сёння дарожкаўскія спулдзельцы гаспадараць на 290 гектарах сваіх і 40 га, якія ўзялі з ФРР.

У машынным парку зараз маюць не 2, а 7 трактараў, сеўнікаў, раскідвачы, апараты да ачышчання збожжа і г.д. Два механікі-спецыялісты на бягуча выконваюць неабходныя рамонты ўсіх сельскагаспадарчых машын.

Зараз спулдзельцы гадуюць 130 кароў, заводзяць у сябе чырвона-датскую расу. Ад каровы надойваюць 2400 літраў малака ў год. Варта аднак дадаць, што каб не спадала ўзімку малочнасць кароў, працаўнікі спулдзельні штогод падрыхтоўваюць увосень 650 тон кішонак.

Аднак найбольшы даход прыносіць спулдзельцам не гадоўля кароў, а брайлераў (гатунак курэй). У мінулым 1969 годзе прадалі яны іх на агульную вагу 174 тон мяса, а на штукі 125 тысяч. Гадоўля брайлераў высока аплачваецца. У 1969 годзе спулдзельцы пасеялі на 1 гектар 184 кг штучных угнаенняў НПК у чыстым складніку. Атрымалі высокія ўраджаі, а перш за ўсё аўса — 52 цэнтнеры з 1 га і 43 цэнтнеры пшаніцы з 1 га. Спулдзельня хоча дабіцца больш ураджаю чатырох асноўных збожжавых культур — па 30 цэнтнераў з 1 гектара.

Мінулы год закончыўся для дарожкаўскіх спулдзельцаў даходам у 950 тысяч злотых, што на адзін працадзень спулдзельца дае 83 злотых.

На кожную сям'ю выпала па 50 тысяч у гадавым падліку. Спулдзельцы прадалі дзяржаве ўсіх спажывецкіх прадуктаў на суму 3 млн 600 тыс. зл. Каб павысіць колькасць прадукцыі, будуюць тут зараз цялятнік і гаражы на мінеральныя ўгнаенні. Будуецца таксама адміністрацыйны будынак.

Спулдзельцы не жывуць з думкаю толькі аб сабе, як прыклад такога разумення — гэта арганізацыя (ужо 2 гады) дзяцінцаў на час пільных палявых работ. Такой формай апекі над вясковымі дзецьмі карыстаюцца ўсе.

Дзяцінец у Дарожках быў арганізаваны пры вясковай святліцы і налічваў найменш 20 дзяцей. Апрача гэтага, спулдзельня арганізуе дажынкі, святкаванні важнейшых дзяржаўных свят, экскурсіі па краіне і г.д.

У агульнаграмадскіх мерапрыемствах прымаюць удзел жыхары Дарожак і другіх навакольных вёсак.

На заканчэнне варта сказаць пра некаторых ахвярных працаўнікоў спулдзельні прадукцыйнай: старшыню Мікалая Трафімчука, які працуе ў спулдзельні ўжо 15 гадоў і быў узнагароджаны дзяржавай за заслугі, кіраўніка прадукцыі Мікалая Шпіцу, галоўнага бухгалтара Тацяну Шпіцу.

Тэк у некалькіх словах аб дарожкаўскіх спулдзельцах і іх дасягненнях.

Смела можна сказаць, што дарожкаўская спулдзельня надае тон жыццю цэлай вёскі і акругі.

**Янка Цялушэцкі**

## БГКТ ХРОНІКА

■ Як выконваўся план працы ў красавіку і як ён будзе выконвацца ў маі — гэта было ў першым пункце пасяджэння прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, якое адбылося 23 красавіка. Прысутныя выказаліся таксама адносна публікацый «Нівы» праблематыка якой будзе ацэньвацца на чарговым пасяджэнні прэзідыума ГП.

Членамі прэзідыума аддзела быў падтрыманы зварот ГП да насельніцтва (ён быў надрукаваны ў «Ніве») адносна зборкі грошай на пабудову этнаграфічнага беларускага музея ў Белавежы. Іван Чыквін, Сцяпан Зенюк, Іван Стрышко і Зося Стаськевіч унеслі па 100 зл. на гэту патрэбную будову.

■ У 164 школах Беласточчыны навучаецца беларуская мова і літаратура. Да навучання яе патрэбны падручнікі, мастацкая літаратура, партрэты пісьменнікаў, візуальныя дапаможнікі і г.д. Ва ўсім гэтым адчуваецца вялікі недахоп. Вось таму прэзідыум ГП звярнуўся да Міністэрства асветы, каб направіць у Мінск дэлегацыю, якая там дагаварылася б адносна забеспячэння нашых школ гэтымі дапаможнікамі. Міністэрства прыхілілася да просьбы прэзідыума ГП і ў камандзіроўку ў Мінск кіруе свайго ўпаўнаважанага, якім з'яўляецца начальнік агульнаадукацыйнага школьніцтва і асветы для дарослых Беластоцкай школьнай акругі Вацлаў Філіпкоўскі і члена прэзідыума старшыню камісіі асветы ГП, дырэктара беларускага ліцэя ў Бельску Міколу Гайдука. Гэтая дэлегацыя выедзе ў Мінск у канцы мая. У сувязі з гэтай паездкай 28 красавіка ў памяшканні ГП БГКТ адбылася нарада. У ёй ўзялі ўдзел Вацлаў Філіпкоўскі, Мікола Гайдук, Стэфан Кэнска, Сцяпан Трахімюк, Сяргей Бароўскі, Васіль Сакоўскі, Вера Рышчук, Ольга Гарустовіч, Міхась Хмялеўскі, Янка Зенюк і Уладзімір Паўлоўскі. Удзельнікі нарады стварылі дзве рабочыя камісіі да пачатковага і сярэдняга школьніцтва, якія апрацуюць прапановы адносна ўсіх патрэб у навучанні беларускай мовы і літаратуры.

■ З нагоды 1 Мая гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечарыну. Ігралі музыканты «Лявоніхі». Па некалькі песень выканалі Зося Стаськевіч і Янка Блізнюк. (мх)


*Вугал хаты Сцяпана Юрчука з вёскі Нурэц, Сямяціцкага павета (1951).*


*Вугал хаты Мікіты Юрчука з вёскі Нурэц, Сямяціцкага пав. (1945).*


*Вугал хаты Аляксея Місеюка з вёскі Пухлы, Гайнаўскага пав. (1937).*

*Знешняе ўпрыгожванне хат паўднёвага ўсходу Беласточчыны*

# ВУГАЛ (3)

Каб пазбегнуць даўжэйшай характарыстыкі разьбы на паасобных вуглах, выкананых мясцовымі цеслямі, далучым яшчэ чарговыя тры фотаздымкі (вуглы хатаў С. Юрчука, М. Юрчука і А. Місеюка).

У вугольнай разьбе рэдка сустракаюцца элементы расліннага свету або фігуры жывёл. Найчасцей займаюць яны адзін невялікі сегмент. (Мацей Грыгарук з Трасцянкі, Гайнаўскага пав. — вавёрка, Рыгор Іванюк з Жыўкова, Беластоцкага пав., — галінкі бэзу, Аляксандра Паўлючук з Рыбалаў, Бельскага пав., — птушкі і зайчыкі, Аляксей Кадлубоўскі з Астровак, Беластоцкага пав., — птушкі, Іван Мушынскі з Канюкоў, Бельскага пав., — лісце ліпы і некаторыя іншыя). Выключэнне ў нашых фотаздымках складаюць вуглы хаты Рыгора Анцуткі з Лукі і Івана Харытанюка з Сацоў, Гайнаўскага павета, якія ўпрыгожаны ў асноўным разьбой расліннага і жывёльнага свету (глядзі вуглы хат І. Харытанюка, М. Ваўрэнюка і А. Лапінскага).

На заканчэнне нашых разважанняў аб мастацкім упрыгожванні вуглоў хат, трэба заўважыць, што на паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства не выступае практыка малявання вуглоў без шалёўкі і вельмі рэдка малююцца фігуры фарбай на шалёўцы. Аднатаварна гэта пакуль што толькі ў Нурцы і Навасадах.

Рэдка малюецца таксама шалёўка як падложжа і нават сама разьба. Тлумачыцца гэта цяжкасцю малявання паміж узорамі і недахопам на гэта часу. Калі ўжо вугал малюецца, дык выступаюць найчасцей аднолькавыя колеры розных адценкаў: арэх ясны і цёмны, сіні ясны і цёмны, белы, менш зялёны, чырвоны і іншыя.

Узнікае пытанне, ці ў сувязі з шырэйшым прымяненнем шалявання хат і пабудовай хат з іншых матэрыялаў (цэглы, пустакоў, шлакаў, гатовых будаўнічых элементаў і г.д.) захаваецца архітэктурнае ўпрыгожванне сялянскіх пабудоў?

Шаляванне драўляных хат у апошнія гады заняпаду гэтага мастацтва не выклікае. Найчасцей на шалёўку замацоўваецца папярэдняя разьба, часта яна нават дапаўняецца новымі элементамі, якіх раней не было або якія ўжо знішчэлі.

У мураваных хатах насельніцтва імкнецца ўпрыгожыць вуглы праз укладку іншага колеру цэглы, адпаведнае фармаванне тынку і яго маляванне. Але нейкіх характэрных узораў яшчэ не выпрацавана.

*Ул. Юзвюк*

*Фота аўтара*


*Вугал хаты Івана Харытанюка з вёскі Сацы, Гайнаўскага пав. (1949).*


*Вугал хаты Аляксандра Лапінскага з вёскі Рыбалы, Бельскага пав. (1926).*


*Вугал хаты Міхася Ваўрэнюка з вёскі Трасцянка, Гайнаўскага пав. (1934).*

У ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

# «ЗА АДЗІН МАЙ»

Падаем некалькі з цікавейшых рэчаў з майскай праграмы Дзён асветы, кніжкі і прэсы.

Аўтарскіх сустрэч — 116, 16-ці аўтараў. Некаторыя паветы (бо ад іх залежала) заказалі сабе па 10 сустрэч, іншыя па аднаму — Замброўскі, Ломжынскі, Бельскі — 2. Дзве трэція з тых 116 сустрэч — на вёсцы.

Два вялікія кірмашы кніжкі былі ў Беластоку ў Алеі Звыценства на Плянтах у Беластоцкім парку. Аж 500 кірмашоў кніжкі — на вёсках. Акрамя іх 1000 пунктаў продажу ў вёсках (малых кірмашоў).

Людова спулдзельня выдаўніча прызначыла 10-ці найлепшым беластоцкім клубам «Руху» 10 камплектаў цікавых кніжак па 20—40 экземпляраў кожны камплект.

У Беластоку адбываўся агульнапольскі агляд клубаў савецкай песні. З Беласточчыны выступілі два клубы: ТППР-у і з Гарадка. У Беласток прыехалі клубы савецкай песні з Гданьска, Ольштына, Шчэціна, Лодзі, Кракава, Вроцлава. Агляд працягваўся тры дні, а на заканчэнне гасцінна выступіў Цэнтральны калектыў унутраных войск.

З праграмы майскіх дзён выпісалі мы такое цікавае мерапрыемства, як выстаўка беластоцкай народнай творчасці ў клубе прафсаюзаў у Беластоку. Таксама тое, што ў маі адкрыты 14 новых клубаў «Руху», 12 клубаў «Рольніка», 5 новых бібліятэчных пунктаў. У Гарадку адкрыта ізба памяці рабочага руху. Вельмі ўрачыста святкаваўся дзень дзеяча культуры. Цэнтральная ўрачыстасць адбылася ў Беластоку. Некаторыя паветы ў сябе адзначылі гэты дзень багата і цікава. Напрыклад, дзеячы культуры з Гайнаўскага павета сустрэліся са сваімі партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі. Многія дзеячы культуры Беласточчыны атрымалі ўзнагароды і дыпломы.

* * *

У Элку адбыўся ваяводскі з'езд рэгіянальных таварыстваў. Іх штораз больш на Беласточчыне і штораз большую ролю адыгрываюць яны ў культурным развіцці ваяводства. Яны арганізуюць дні сваіх раёнаў.

Многія культурныя мерапрыемствы ў маі прысвячаюцца 100-ай гадавіне з дня нараджэння Леніна, 25-годдзю падпісання Дагавору аб дружбе з СССР, 25-годдзю перамогі над фашызмам і павароту Заходніх і Паўночных земляў да Польшчы, 75-годдзю сялянскага руху. (вл)



ІСКРА — 70

# ЛЕНІНСКАЯ ІСКРА

Вельмі актыўна ўключыліся гарцэры Беластоцкага павета ў святкаванне 100-ай гадавіны з дня нараджэння правадыра рэвалюцыі. Усе гарцэры прынялі ўдзел у арганізаваных конкурсах, арганізоўвалі ленінскія «суботнікі», выконваючы шмат працы пры ўпарадкаванні школьных пляцоў, спартыўных пляцовак, дарог і г.д.

Аднак задумалі зрабіць таксама нешта арыгінальнае, штосьці, што можна было б захаваць для гісторыі і перш за ўсё — для сябе. Па ініцыятыве беластоцкай павятовай Камэнды гуфца гарцэры гэтага гуфца выконваюць альбом удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Дружыны рыхтуюць спецыяльныя аркушы паперы, на іх наклейваюць фатаграфію ўдзельніка рэвалюцыі, упісваюць яго прозвішча і іншыя дадзеныя, як, напрыклад, дзе быў, што бачыў і г.д. У Камэндзе гуфца знаходзяцца ўжо прозвішчы *Паўла Храноўскага з Азяблаў — чыгуначніка; Паўла Шаркоўскага з Міхалова — былога настаўніка; Яна Бяляўскага, гаспадара з Сабалева, які быў сведкам замаху на Леніна.*

Альбом мае быць наглядным доказам удзелу нашых землякоў у справе, аб якой сёння гаворыць увесь свет.

Беластоцкі гуфец ЗГП, які носіць імя Беластоцкага аддзела ВОП, рыхтуецца таксама да 25-годдзя стварэння Войска аховы граніц. Супольна з ВОП-ам зроблены план святкавання, а найважнейшым яго пунктам будзе злёт прыгранічных дружын ЗГП.

А. К.

НЕПАРАЗУМЛЕННЕ ЦІ НЕАХАЙНАСЦЬ?

# ТРЫ СПРАВЫ

Нявырашаныя або не да канца вырашаныя справы часта ўзбуджаюць непатрэбныя эмоцыі. Неаднойчы можна было чуць вельмі крытычныя галасы ў адрас асветных улад у справах, якія датычылі навучання беларускай мовы ў школах. Былі слушныя прэтэнзіі да Міністэрства асветы за недахоп падручнікаў, існуюць слушныя прэтэнзіі за недапасаваную праграму навучання беларускай мовы ў пачатковых школах, за недахоп літаратуры ў бібліятэках. Справы гэтыя зараз упарадкоўваюцца. Эмоцыі ападаюць, бо настаўнікі і дзеячы ўсё больш атрымліваюць інфармацыі адносна рэалізацыі прапаноў таварыства і настаўнікаў.

Аднак, калі зверху справы парадкуюцца, і гэтае парадкаванне цешыць, то часцей заўважаецца неахайнасць або абыякавасць ніжэйшых органаў асветных улад. З трыма такімі справамі мы сустрэліся ў Гайнаўскім павеце, дзе школы, у якіх не навучаецца беларуская мова, — гэта выключэнне.

Паінфармавалі нас, што навучанне беларускай мовы найгорш выглядае ў адной з найлепшых (?!) пачатковых школ Гайнаўшчыны — у Нараўцы. Прычына? Беларускую мову выкладаюць тут аж тры настаўнікі. Яны спецыялісты і па матэматыцы, і па біялогіі, і па іншых прадметах, толькі не па беларускай мове. А тым часам спецыяліст па беларускай мове (закончыла СН, бел. філалогію) навучае ў класах I—IV, бо, як гавораць, яна добры спецыяліст для гэтых класаў.

Не пярэчым, што так яно і ёсць. Але калі мы не будзем кіравацца кваліфікацыямі настаўнікаў пры падзеле прадметаў, дык навошта ж вясці планы спецыялізацыі адукацыі настаўнікаў? Уяўляем, колькі можа пасыпацца вострых слоў у адрас кіраўніка школы. Напэўна, калі існуе такая сітуацыя, ён не без віны. Але хочацца запытаць, дзе былі таварышы з аддзела асветы, якія зацвярджаюць праекты арганізацыі школы і планы падзелу прадметаў? Пытанне ставім тым больш адважна, што з навучаннем беларускай мовы ў Нараўцы і ў мінулым не было найлепш.

Другая справа датычыць падручных польска-беларускіх слоўнікаў. Слоўнік быў выданы аж у 1962 годзе тыражом у 5.000 экземпляраў. Беластоцкая куратарыя школьнай акругі выступіла з пісьмом да аддзелаў асветы ў мінулым годзе, каб тыя зрабілі заказ патрэбных слоўнікаў у... Куратарыі (калі вядома, што падзелам і продажам гэтых кніжак займаецца ў нас «Дом кніжкі»). Гайнаўскі аддзел асветы зрабіў такі заказ у Куратарыі. Вынік? Школы гэтага павета не маюць слоўнікаў, аддзел асветы наракае на Куратарыю, што не рэалізуе іх заказу, а слоўнікі ляжаць у кніжных магазінах.

У іншых паветах справа ўжо даўно аформлена. Аддзелы асветы паведамілі школам, а тыя зрабілі заказ на патрэбныя слоўнікі ў кнігарнях — і справа вырашана.

І, нарэшце, трэцяя справа — справа выпісвання беларускіх часопісаў у школьныя бібліятэкі. Наогул падпіску часопісаў з БССР настаўнікам і дзецям павінны вырашаць асветныя ўлады пры дапамозе метадычнага цэнтра. Але ўвайшло ўжо ў традыцыю, што аддзелы асветы робяць такую падпіску беларускіх часопісаў у школы часта непасрэдна з павятовага фонду. У гэтым (1970) годзе настаўнікі Гайнаўшчыны не атрымалі вельмі патрэбнага метадычнага часопіса «Народная асвета».

Падумае хто, што гэта ашчаднасць ці недахоп грошай у бюджэце. Але ж не! Паінфармавалі нас, што пачатковая школа ў Анцутах, дзе зусім няма беларускай мовы, атрымлівае беларускія часопісы.

Не цяжка дадумацца, што ўсе гэтыя тры справы можна і трэба вырашыць у павеце. Адказныя працаўнікі дапусцілі да таго, што аб гэтых справах гаварылася і на канферэнцыях у павеце, а даводзілася чуць і ў Беластоку, быццам бы яны былі вырашальнымі толькі ў міністэрстве.

Час ужо навучыцца самім уладжваць справы на сваім панадворку.

*А. Лабановіч*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

Хоць вясна ўжо ў разгары, маладой бульбы прыйдзецца яшчэ пачакаць.

Дык пакуль што і як, варта было б прызадумацца, як бы тут выкарыстаць яшчэ і яшчэ раз старую бульбу.

Бульба, як вядома, спадарожнічае нам ад калыскі. Спадарожнічае круглы год. І малы, і стары, і хворы, усе ядуць яе з аднолькавым апетытам.

Да бульбы мы ўсе так прывыклі, што аж дзіва часамі бярэ, што паходзіць яна з Паўднёвай Амерыкі. Для нас жа абед без бульбы — гэта як бы і не абед.

З бульбы можна рабіць столькі розных страў, што цяжка сабе нават уявіць. Сёння ж мы хочам расказаць аб вельмі смачнай, недарагой, але, на жаль, не часта ўжыванай страве.

### БУЛЬБА ФАРШЫРАВАНАЯ

Для фаршыравання трэба браць бульбу не малую і не вялікую — сярэдняй велічыні. Тоненька абіраем яе, мыем і акуратна выразаем сярэдзіну. Бульбу з выразанай сярэдзінай абвараем 5 мінут у пасоленай вадзе і дакладна асушваем.

Фарш можа быць мясны. Падрыхтоўваем яго амаль, як на катлеты. Мяса, найлепш свініну прапускаем праз мясарубку разам з цыбуляй і намочанай булачкай. Солім і пасыпаем перцам па смаку. Дадаем сырое яйцо і дакладна вымешваем.

Мы вельмі папраўім смак мяснога фаршу, калі да яго дададзім яшчэ крыху мукі (булкі тады трэба ўзяць менш, або зусім не дадаваць яе).

На дзесяць даволі вялікіх бульбін, бярэм паўкілаграма мяса, 1 яйцо, 1 цыбуліну, 1 булачку, або 2 лыжкі мукі.

Падрыхтаваную да фаршыравання бульбу напаўняем мясным фаршам, ставім яе (фаршам наверх) у брытфану, дадаем лыжку тлушчу, крыху вады, солім, прыкрываем і ставім у духоўку мінут на 40—50.

Фарш можна зрабіць таксама з свежых грыбоў (зімой з пячарак). Грыбы тады трэба ачысціць, апаласкаць, выціснуць, каб не засталася ў іх вада, дробна парэзаць, улажыць у каструлю з падсмажанай і пасыпанай мукой цыбуляй, дадаць лыжку тлушчу і тушыць на даволі вялікім агні мінут 20.

Калі ж на свежыя грыбы — не сезон, а нам якраз хочацца зрабіць бульбу з грыбамі, раім выкарыстаць сушоныя грыбы, якія дасканала смакуюць у спалучэнні з свежай капустай.

Сушоныя грыбы (5—6 штук на 8—10 бульбін) трэба дзень наперад намачыць, а пасля зварыць, пасячы разам з адваранай капустай (на гэту прапорцыю трэба ўзяць паўгалоўкі свежай капусты) і падсмажыць у тлушчы разам з цыбуляй, соллю і перцам. Напаўняем бульбу гэтым фаршам, устаўляем у брытфану, заліваем смятанай, запраўленай соллю і перцам, прыкрываем і тушым на малым агні мінут 40. Падаем з салатам.

**Гаспадыня**

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «Ніву»!




# КРАІНА ЦВІТУЧАЙ ВІШНІ

Так жыхары Японіі называюць сваю айчыну. Ужо другі раз ўвага ўсяго свету звяртаецца на гэтую краіну. Спачатку з нагоды спартыўнай алімпіяды, якая адбывалася ў Токіо, а вось зараз — з нагоды сусветнай прамысловай выстаўкі «Экспо—70», месца для якой японцы адвялі ля горада Асака. Урачыстая цырымонія адкрыцця выстаўкі адбылася 15 сакавіка г.г. Прынялі ў ёй удзел японскі імператар Хірахіта, яго жонка Нагака, 3 тысячы журналістаў, дзесяткі тысяч гасцей з усяго свету і прадстаўнікі 77 краін, якія паказваюць свае гаспадарчыя дасягненні, а сярод іх: Савецкі Саюз, Балгарыя, Чэхаславакія, Венгрыя, Куба і Югаславія.

Японія нездарма прыняла на сябе адказнае і капіталаёмкае заданне пад лозунгам *«Прагрэс і гармонія — для чалавецтва»* і з'яўляецца першай ступенькай да наступнага, 21-га стагоддзя. Імператар Хірахіта пасля экскурсіі па выстаўцы заявіў журналістам: *«...я адчуў, што пабываў у дваццаць першым стагоддзі»*.

77 краін свету сабралі ў японскім горадзе Асака ўсё, што ёсць у іх найлепшага, што па сваёй сутнасці мае служыць чалавецтву не толькі сёння, але і за 30—50 год. Японцы выкарыстоўваюць гэтую нагоду, каб паказаць свету свой *«гаспадарчы цуд»*.



*Сімвал сучаснай Японіі.*

І сапраўды, ёсць у іх што паказаць. «Гадавік 1968» арганізацыі Аб'яднаных Нацый сцвярджае, што ў дзесяцігоддзі 1958—1967 гадоў Японія абагнала ўсе краіны свету па тэмпу ўзросту прамысловай прадукцыі.

Адзін з даследчыкаў японскага «гаспадарчага цуду», шведскі журналіст Гаскан Гедберг, аўтар кніжкі «Выклік Японіі», аўтарытэтна сцвярджае:

*«Я глыбока ўпэўнены, што Японія паб'е ЗША ў розных галінах прамысловасці ды яшчэ патрапіць збудаваць у сябе лепшае грамадства».*

Гэты самы аўтар піша, што за шэсць год Японія адкрые сабе дзверы ў клуб вялікіх сусветных дзяржаў, што ў 1975 годзе нацыянальны даход краіны цвітучай вішні ўдвая перавысіць нацыянальны даход Заходняй Германіі, што за 10 год японская прамысловасць выпусціць у свет столькі тавараў, колькі змогуць выпусціць усе краіны, згуртаваныя ў Еўрапейскай гаспадарчай супольнасці, што за 15 год нацыянальны даход, прыпадаючы на кожнага жыхара краіны, у Японіі будзе вышэйшы, чымсьці ў ЗША.

Польскі журналіст Уладзімір Ваўчук у часопісе «Перспектывы» піша: «Рэцэпт на цуд вельмі просты: трэба купіць за мяжой і прывесці 300 мільёнаў тон сыравіны, паўфабрыкатаў, заплаціўшы за гэта 14,5 мільярдаў долараў, перарабіць гэта на 20 мільёнаў тон тавараў «Made in Japan» і прадаць на сусветных рынках за 16,5 мільярдаў долараў. Такім чынам наступіў прырост дэвізных запасаў і золата».

Значыць, *японскія фабрыканты перш за ўсё зарабляюць на працы сваіх рабочых, інжынераў і канструктараў, бо гэтыя два мільярды чыстага прыбытку — нішто іншае, як вартасць укладзенай у тавар працы і думкі вучоных.*

Працавітасць японцаў сталася ўжо праслаўтай. Расказваюць пра яе анекдот: сярод нашых працаўнікоў знайшоўся японец, які наглядаў за зборкай машын сваёй фірмы. Роўна а восьмай гадзіне раніцы з'яўляўся ён на працу, і прывітаўшыся, займаў сваё месца за сталом. У тры гадзіны пасля абеду ўставаў ад стала і, развітваючыся, дадаваў: «Выбачайце, што я не прыймаў удзелу ў вашым баставанні, але я тут іншаземец.» Не мог ён зразумець, што ў нашых працаўнікоў быў гэта нармальны дзень працы.

Дык варта ведаць, што Японія распалажана на чатырох вялікіх і 3 40 малых астравах, *што яе тэрыторыя нямнога перавышае тэрыторыю Польшчы, але жыве там амаль сто мільёнаў чалавек,* што толькі 17% краіны надаецца для земляробства, што японцы ў асноўным сеюць рыс, але маюць добра абсталяваную сістэму штучнага наваднення, што апрача вугалю няма ў Японіі прамысловай сыравіны, што Японія не мае нармальнай арміі, а на мілітарныя патрэбы сваёй краіны прызначае ледзь 1% свайго нацыянальнага даходу. (вр)

## І ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...смерць аднаго воіна ў часах Цэзара каштавала палову долара. Напалеонаўскі салдат варты быў ужо каля 4 тыс. долараў, а забіты ў І сусветнай вайне — каля 30 тыс. долараў. Загінуўшы ў ІІ сусветнай вайне каштаваў каля 65 тыс. долараў, а на забіццё аднаго праціўніка выдае ЗША ў В'етнаме каля 400 тыс. долараў.

## ПЕКАР ПРЫРОДА

**Сіні васілёк.** Для хлебаробаў ён — проста пустазелле, для закаханых — пяшчотная кветка. Шмат прыемных радкоў прысвяцілі яму паэты. Але сіні васілёк мае і іншыя ўласцівасці. У народнай медыцыне адвар сушаных кветак гэтай расліны спрадвеку лічыўся лепшым сродкам пры кашлі і коклюшы, пры нервовых захворваннях і захворваннях страўніка. Прымочкі з гэтага адвару робяць пры хваробе вачэй. У сучаснай медыцыне ўжываюць толькі кветкі васілька. Яны ўтрымліваюць цэнтаурэін — флаванавы гліказід, цынін — сіні антацыянавы гліказід. Настой кветак— добры мачагонны сродак.

Збіраюць васількі, калі кветка толькі што распусцілася. Сушаць у цёмным месцы, каб захаваўся колер.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### У карчме Пятра І

Кафэ «Фрэгат» на Васільеўскім востраве (Ленінград) адкрыта там, дзе знаходзілася першая карчма Пятра І. Тут цар наладжваў урачыстасці з выпадку спуску караблёў. Інтэр'еры кафэ выкананы ў стылі XVIII стагоддзя. Ежу рыхтуюць у «Фрэгаце» па рэцэптах старадаўніх кулінарных кніг: «царскі боршч», «смажаніна па-стралецку».



*У японскай школе. Навука пісання.*

## Чвэрць стагоддзя назад




### УДАР, ЯКІ БЫЎ НЕМІНУЧЫ

Акружэнне і ўзяцце Берліна было лагічным завяршэннем аперацыі, намечанай і распрацаванай у Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Чырвонай Арміі вясной 1945 года. Праўда, Адольф Гітлер спрабаваў цешыць сябе надзеяй, што савецкія войскі не пойдуць на Берлін. Ён гаварыў Гейнцу Гудэрыяну ў сакавіку:

— Рускія не будуць такімі дурнымі, як былі мы, калі, асепленыя блізкасцю Масквы, хацелі абавязкова ўзяць яе. Якраз вы, Гудэрыян, хацелі быць першым у Маскве са сваёй арміяй. Вы б павінны былі лепш за іншых ведаць, чым справа скончылася!

Так, Гудэрыян ведаў, чым гэта скончылася. Але нямецкая разведка мела звесткі, быццам у савецкім камандаванні былі разыходжанні: Жукаў, маўляў, хацеў наступаць на Берлін, а Сталін аддаваў перавагу ўдару на Прагу.

Калі я пры выпадку расказаў пра гэта маршалу Жукаву, той рассмяяўся:

— Глупства! Безумоўна, і на гэты раз немцы не ведалі пра нашы намеры.

Берлінская аперацыя рыхтавалася доўга і сур'ёзна. Агульная задума Стаўкі Вярхоўнага Камандавання Чырвонай Арміі на правядзенне завяршаючых аперацый вайны супраць гітлераўскай Германіі ў асноўным склалася ў лістападзе 1944 года.

Як складваліся суадносіны сіл на гэтым заключным этапе вялікага аднаборства савецкіх войск з вермахтам? Няўжо, як гэта сцвярджаюць некаторыя заходнія гісторыкі, Берлін абараняў толькі гарнізон у 90.000 чалавек? У сапраўднасці справа абстаяла не так проста. Берлінская аперацыя не зводзілася толькі да штурму самога Берліна. З савецкага боку яна была задумана як канцэнтрычны ўдар трох франтоў: І-га Беларускага, І-га Украінскага і 2-га Беларускага.

Савецкія сілы былі вялікія. У маршала Ракасоўскага было 314 тысяч чалавек, у маршала Жукава — 768 тысяч і ў маршала Конева — 511 тысяч. Але і з нямецкага боку — пры ўсім знясіленні вермахта! — савецкім войскам процістаялі значныя сілы. Паводле даных арганізацыйнага аддзела галоўнага камандавання нямецкіх сухапутных сіл па стану на 28 лютага 1945 года, група армій «Вісла» (3-я танкавая армія і 9-я армія), якая абаранялася па Одэры ад Балтыкі да Фюрстэнберга, налічвала 527 тысяч чалавек, а група армій «Цэнтр» (4-я танкавая армія і 17-я армія), якая абаранялася на поўдзень ад гэтай лініі, — 413 тысяч чалавек. К пачатку Берлінскай аперацыі ў распараджэнні групы армій «Вісла» мелася 34 дывізіі, а ў распараджэнні групы армій «Цэнтр» — 13 дывізій (бяру толькі тыя дывізіі, якія апынуліся ў паласе наступлення войск паўночнага крыла маршала Конева). Акрамя таго, ўжо ў ходзе самай Берлінскай аперацыі на падмацаванне групы армій «Вісла» прыбылі дадаткова 20 дывізій, а на падмацаванне паўночнага флангу групы армій «Цэнтр» — 12 дывізій).

Што датычыць самога Берліна, то і тут з нямецкага боку былі прыняты даволі энергічныя меры. Загад аб падрыхтоўцы імперскай сталіцы да абароны быў выдадзен 9 сакавіка 1945 года і налічваў 35 старонак, не лічачы дадаткаў. Гэты загад патрабаваў: «Абараняць сталіцу да апошняга чалавека і да апошняга патрона».

Цяпер можна толькі іранізаваць над сляпой верай аўтара загаду, але камандуючы абарончым раёнам генерал Рэйман патрабаваў ад сваіх падначаленых весці барацьбу «на зямлі, у паветры і пад зямлёй з фанатызмам і фантазіяй, з ужываннем усіх сродкаў увядзення праціўніка ў зман, з ваеннай хітрасцю, з каварствам, з выкарыстаннем загадзя падрыхтаваных, а таксама ўсемагчымых падручных сродкаў.

Загад патрабаваў:

«Пры гэтым неабходна максімальна выкарыстоўваць перавагі, якія вынікаюць з таго, што барацьба будзе весціся на нямецкай тэрыторыі, а таксама тую акалічнасць, што рускія ў масе сваёй, відаць, будуць адчуваць боязнь перад незнаёмай вялікай масай дамоў. Дзякуючы дакладнаму веданню мясцовасці, выкарыстанню метрапалітэна і падземнай каналізацыйнай сеткі, наяўных ліній сувязі, цудоўных магчымасцей для вядзення бою і маскіроўкі ў дамах, ператварэнню комплексаў будынкаў — асабліва жалезабетонных збудаванняў — ва ўмацаваныя апорныя пункты, той, хто абараняецца, становіцца непрыступным для любога праціўніка, нават калі ён валодае вялікай колькаснай і матэрыяльнай перавагай!

...Перадумовай для паспяховай абароны Берліна з'яўляецца ўтрыманне ў што б там ні стала кожнага квартала, кожнага дома, паверха, кожнага плоту, кожнай варонкі ад снарада!»

Усё гэта ўлічвала Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання, калі рыхтавала

# ТРЫБУНА чытачоў

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АСВЕТА КАШТУЕ

На дзейнасць курсаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Бельску Падляшскім з дзяржаўнага фонду атрымала ў 1968 годзе 179 тысяч зл., а ў 1969 годзе — 165 тысяч зл.

У мінулым годзе курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі трэцяй ступені закончыла 81 асоба. Кошт аднаго навучэнца ПР-у ў 1969 годзе акрэсліваўся сумай 387 зл.

(мс)

### ПАРТЫЙНЫ СХОД

Усе партыйныя арганізацыі ў красавіку арганізоўвалі сходы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння Леніна. 21 красавіка такі сход адбыўся ў Дубічах Царкоўных. Адкрыў яго сакратар ПОП Уладзімір Несцярук. Ён таксама расказваў аб жыццёвым шляху Леніна. Інструктар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы выступаў з дакладам аб Леніне.

Сход быў вялікім выхаваўчым урокам для членаў партыі. П. М.

### ВЫСТАЎКА

17 красавіка ў Дубічах Царкоўных у святліцы адкрылася выстаўка саламяных вырабаў. Арганізатарам яе быў Дзмітры Мікуліч (ён жа і кіраўнік скупачнага пункту саламяных вырабаў у Чаромусе на Гайнаўшчыне).

На выстаўцы было шмат саламяных каробак, малых і вялікіх, і ўсё дасканала сплеценыя. Прысутнічалі на ўрачыстасці запрошаныя госці з Варшавы і некалькі з-за рубяжа: з Англіі і Савецкага Саюза (яны прадстаўнікі сваіх установаў, якія зацікаўлены купляй гэтых вырабаў).

У гонар гасцей выступіў дзявочы харавы калектыў з Палічнай і мясцовыя салісткі — Насця Тафілюк і Надзя Дзідзюк.

У час выстаўкі савецкі госць уручыў самадзейнікам падарункі.

Падарунак атрымаў таксама і Дзмітры Мікуліч. Нельга не ўспомніць, што тав. Д. Мікуліч у беларускім асяроддзі — вядомая асоба. Ён таленавіты арганізатар і прапагандыст беларускай культуры і народнай творчасці.

*М. Панфілюк*
Дубічы Царкоўныя

### У ШКОЛЕ Ў МАСТАЎЛЯНАХ

У пачатковай школе імя К. Каліноўскага ў Мастаўлянах (Беластоцкі павет) вучыцца 122 дзяцей. Школьнікі шмат працуюць грамадскім чынам. На пачатку гэтага школьнага года вучні бралі ўдзел пры капанні бульбы ў спулдзельні прадукцыйнай ў Зубрах, садзілі лес, будавалі спартыўную пляцоўку, абсаджвалі дрэўцамі мясцовую дарогу. Штогод вучні апякуюцца прышкольным кветкавым агародчыкам, а таксама доследнымі палеткамі з агароднінай.

Зімою вучні клапаціліся аб курапатках і дапамагалі пратрываць зімовую галадоўку звярам.

Школьная моладзь падрыхтавала багатую мастацкую частку на вечарыну, прысвечаную 100-ай гадавіне з дня нараджэння Ул. І. Леніна.

*Я. Цялушэцкі*

---

наступленне на Берлін. Меркавалася спачатку, што яно пачнецца адначасова ўсімі трыма франтамі. Аднак 2-гі Беларускі фронт, які пасля завяршэння баёў ва Ўсходняй Памераніі павінен быў значна перагрупавацца, мог перайсці ў наступленне не раней як 20 красавіка. Улічваючы ўсё гэта, Стаўка вырашыла пачаць аперацыю 16 красавіка. — але спачатку толькі двума франтамі. Наступленне на галоўным напрамку было даручана І-му Беларускаму фронту.

Франтальны ўдар Беларускага фронту наткнуўся на ўпорнае супраціўленне 9-ай нямецкай арміі, якая абаранялася на ўсход ад Берліна. На Зеелаўскіх вышынях разгарэлася жорсткая бітва, якая працягвалася да 18 красавіка. Але яшчэ ў ноч на 18 красавіка І-ы Украінскі фронт атрымаў загад нанесці ўдар з поўдня —у выніку чаго і стварыліся ўмовы для акружэння Берліна. І калі 21 красавіка войскі І-га Беларускага фронту апынуліся на ўсходняй граніцы Берліна, то к гэтаму моманту танкі І-га Украінскага фронту ўжо выйшлі на подступы да Берліна з поўдня.

Але і гэта не знімала ўсіх складанасцей заключнага этапа аперацыі. Вялікі Берлін — вялізны горад, яго плошча дасягае 900 квадратных кіламетраў, і барацьба ў ім насіла жорсткі характар. Аб гэтым памятае кожны, хто быў тут у апошнія дні красавіка 1945 года.

(Працяг будзе)

### ЛЕНІНСКІ ЧЫН

Настаўнікі школы ў Цялушках (Бельскі павет) склікалі бацькоўскі сход, на якім інфармавалі аб паспяховасці ў навучанні сваіх выхаванкаў.

На гэтым жа сходзе кіраўнік школы Марыя Бароўская звярнулася да бацькоў з прапановаю, каб у гонар 100-годдзя з дня нараджэння Леніна прыступілі яны да грамадскага чыну на школьным пляцу. Школа ў Цялушках стаіць на ўскраіне вёскі, на пясчаным узгорку над рэчкай Нарвай. Вецер разнёс пясок — і каля школы збіраецца вада. Вось таму неабходна навазіць зямлі на школьны пляц, асабліва навокал фундаментаў школы.

Прапанова кіраўніка школы была падтрымана. Бацькі прывезлі больш 60 фурманак зямлі. У грамадскай працы найлепш спраўляліся Васіль Васілюк, Мікалай Лук'янюк, Мікалай Іванюк і Мікалай Леванюк, якія прывязлі зямлі значна больш устаноўленай нормы.

*М. М.*
Цялушкі

### АПЕКА НАД ХВОРЫМІ

Ужо год часу паспяхова працуе пункт апекі над хворым у хаце, які існуе пры павятовым праўленні Польскага чырвонага крыжа ў Бельску Падляшскім. Пункт гэты апякуецца хворымі, якія не займаюць месца ў шпіталі, а ляжаць у хаце і знаходзяцца пад медыцынскай апекай Чырвонага крыжа. Бельскі Чырвоны крыж мае 5 медсясцёр, якія ідуць дамоў да хворых, падаюць ім лякарствы, са сталовак прыносяць яду, сцелюць пасцелі, нават робяць дробную сцірку.

Зімою тром старым і хворым людзям па прапанове Чырвонага крыжа гарадская рада нарадовая закупіла вугаль.

*(мх)*

### ПАВЯЛІЧВАЮЦЦА ЎРАДЖАІ

У 1968 годзе на Бельшчыне ў сярэднім з аднаго га збіралася па 18 цэнтнераў чатырох асноўных зерневых культур, а ў мінулым годзе — 19 цэнтнераў. Прадбачваецца, што гэты год будзе багацейшы і ўраджай будзе вышэйшы, чым у 1969 годзе.

У гэтым годзе значна больш будуць мець сельскагаспадарчыя гурткі трактарных апырсківачаў для хімічнага знішчэння пустазелля. На канец мінулага года налічвалася іх 77 штук.

(сс)




Дарагое «Сэрцайка!»

Жыву на вёсцы. Мне 16 год. Пакахала я хлапца, які разам са мной быў доўгі час у шпіталі. Калі я паехала дамоў, ён пісаў да мяне пісьмы. Аднаго разу мы спатканіся ў горадзе, у якім лячыліся, пайшлі ў тэатр. Потым Януш адвёў мяне да цягніка і абяцаў прыехаць да мяне на святы. Я выйшла на ўмоўленую гадзіну да цягніка, але Януш не прыехаў. Тады я напісала яму пісьмо, але таксама адказу не атрымала. І не ведаю цяпер, што рабіць, ці пісаць да яго далей, ці чакаць пакуль прыедзе.

Парай, Сэрцайка.

*Гэля з Гайнаўшчыны*

*Гэля!* Могуць быць дзве прычыны: хвароба ці сямейныя непаладкі або проста забыў пра цябе (цяпер жа ж надыйшла рамантычная пара года, а яму ж напэўна мала больш год, чым табе, а можа столькі ж). Вы разам былі ў шпіталі і гэта вас зблізіла, вы пасябравалі. Але часта ж так бывае, калі разам — дык сяброўства, а калі потым кожны з вас паехаў у свой бок, дык многае, што звязана з такімі прыкрымі ўспамінамі, як у вашым выпадку шпіталь, забываецца. Забываецца і пра сяброўства, якое было вельмі патрэбнае тады, там, у шпіталі, а не цяпер.

Калі не мог прыехаць, дык мог бы адпісаць. Але калі і гэтага не зрабіў, дык трэба табе, Гэля, проста перастаць не толькі пісаць, але і думаць. Перад табой яшчэ ўсё жыццё, на дарозе якога сустрэнеш не раз яшчэ падобнае каханне. Але табе толькі здаецца, што гэта каханне. Пасталееш, пераканаешся, тады можа і па-сапраўднаму пакахаеш.

*Сэрцайка*

### ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВАЯ СЕСІЯ



*Даклад «Ленін і выхаванне моладзі» чытае Крыстына Сегень.*

21 красавіка г.г. у Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася папулярна-навуковая сесія, звязаная са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна. У 10 гадзін раніцы моладзь і настаўнікі нашага ліцэя сабраліся ў прыгожа ўдэкараванай зале кіно «Ляснік». На ўрачыстасць прыбылі Януш Казлоўскі — старшыня Павятовага праўлення ЗМВ, Аляксей Харкевіч — камендант ЗГП і Сяргей Бароўскі — намеснік інспектара асветы ПРН. Вучаніца Вераніка Харкевіч прывітала гасцей, а вучаніца Марыся Максымюк прачытала даклад, асновавы на біяграфіі Леніна. Другі даклад «Ленін і справа Польшчы» прачытала Гэлена Устынюк.

Потым адбылася мастацкая частка: мантаж, песні і вершы. Мастацкую частку падрыхтавалі вучні пры дапамозе нашых настаўніц Элізы Кшэўскай і Анастасіі Тропак, а таксама дырэктара школы Аляксандра Іванюка. Пасля мастацкай часткі вучаніца прачытала даклад «Ленін і выхаванне моладзі». Наступны даклад чытаў вучань Мікола Раманюк — «100-годдзе з дня нараджэння Леніна і яго святкаванне ва ўсім свеце». Даклады пісалі самі вучні пры дапамозе настаўніка польскай мовы Івана Петручука. Сесія закончылася кінафільмам «Чалавек з ружжом», у якім паказаны Ленін у часы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Трэба падкрэсліць, што дзень гэты быў вялікім святам у жыцці нашага ліцэя.

*Люба Яращэвіч*
бел. ліцэй у Гайнаўцы



*Харавая група спявае песні аб Леніне.*
*Фота Е. Мазурук*

### УРАЧЫСТАЯ АКАДЭМІЯ

28 красавіка 1970 года адбылася ў святліцы ў Плянце (Гайнаўскі павет) урачыстая акадэмія, прысвечаная 100-ай гадавіне з дня нараджэння Ул. Леніна і святкаванню 1 Мая.

Даклад прачытала Валя Сухадола (старшыня мясцовага гуртка ЗМВ). У мастацкай частцы з вершамі, песнямі і лірычнымі маналогамі выступілі школьнікі з Плянты пад кіраўніцтвам настаўніцы Валі Самойлік. У мастацкай частцы перапляталіся творы на беларускай, рускай і польскай мовах. Пасля Валя Сухадола і Янка Цялушэцкі правялі конкурс ведаў аб Леніне. Найлепш адказалі на ўсе пытанні Зося Несцярук, Галя Кот, Веслаў Клімюк і Лешэк Гарбалінскі. Затым адбылася маладзёжная забава.

Варта дадаць, што ў падрыхтоўку акадэміі ўключылася ўся ЗМВ-оўская моладзь, якая прыгожа ўдэкаравала святліцу. На акадэміі прысутнічала больш 100 асоб.

*Янка Цялушэцкі*

### ЗАПІЎСЯ

Нядаўна мелі магчымасць сяляне акалічных вёсак не на фота, але асабіста паглядзець на постаць «прыкладнага» працаўніка, аграмеліяратара з Беластока. Прыбыў ён на сход у вёску Патока, каб зацвердзіць бюджэт на мінеральныя ўгнаенні. Галава яго падчас сходу павісла, як у селядца, на якога жыўцом пасыпалі соллю, а язык, ледзь блытаўся. Бяда ў тым, што мы ехалі з акалічных вёсак па 6 км, але нічога не ўбачылі і не пачулі, апрача аграмеліяранта, які не мог утрымацца на нагах. Не дарма гаварыў адзін з жыхароў Патокі: «Калі яшчэ раз пакажацца ў нашую вёску ў такім стане, то надзенем нейлонавы мяшок на галаву і адвязем у адпаведнае месца».

*М. О.*
*Альшанка*
Беластоцкі павет.

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Pociągi pod specjalnym nadzorem” (czeski), 19—20. „Wyspa na lądzie” (węgierski), 21—22. „Znicz olimpijski” (polski), 23—24.

**Нараўка**

„Biały pokój” (bułg.), „Człowiek z M-3” (polski), 20—24.

**Нарва**

„Partyzant z Lilejskiej góry” (jugosł.), „Stawka większa niż życie” (polski), 20—24.

**Чыжы**

„Kochałem cię” (radz.), „Stawka większa niż życie” (polski), 20—24.

**Дубічы Царкоўныя**

„Winnetou” (jugosł.), I i II s. 20—24.

**Арэшкава.**

„Alfa, Romeo i Julia” (węg.), „Zjazd rodzinny” (węgierski), 23—24.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„63 dni” (polski), „Wyzwanie dla Robin Hooda” (ang.), 20—24.

**Орля**

„Między wrześniem a majem” (polski), „Stawka większa niż życie” (polski), 20—24.

**Райск**

„Trzy dni Wiktora Czernyszewa” (radz.), „Stawka większa niż życie” (polski), 20—24.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Męski piknik” (jugosł.), 19—20. „Mansarda” (polski), 21—22. „Kalejdoskop” (ang.), 23—24.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Mroźny poranek” (radz.), 19—20. „Zwariowałeś Toni” (czeski), 21—22. „Mściciel z przeklętej góry” jugosł.), 23—24.

**Янаў**

„Gra” (polski), 20—24.

**Шудзялава**

„Tylko umarły odpowie” (polski), „Towarzysze podróży” (radziecki), 20—24.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„NB. 38-215” (NRD), 19—20. „W królewstwie ducha gór” (jugosł.), 21—22. „Kalejdoskop” (ang.), 23—24.

**Мельнік**

„Taki duży chłopiec” (radz.), 19—20. „Włoch w Argentynie” (włoski), 21—22. „Nowy” (polski), 23—24.

**Мілейчыцы**

„Casanowa znad Dunaju” (węgierski), 19—20. „Włoch w Argentynie” (włoski), 21—22. „Czekam w Monte Carlo” (polski), 23—24.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Adolf” (franc.), „Sami swoi” (polski), 20—24.

**Новы двор**

„Przygoda z piosenką” (polski), „Trzy klucze” jugosł.), 23—24.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7.392 W-3

